*Жыве Беларусь! Жыве вечна!*

# Голас Камбатанта

газэта ветэранаў беларускага вызвольнага руху

N 4,
верасень-кастрычнік
2000 г.
Адрас для карэспандэнцыі:
231800 Гродзенская вобл.,
г. Слонім-9, а/с 3.
Рэдактар Сяргей ЁРШ

## Беларускія хлопцы гінуць за інтарэсы Расейскай імпэрыі

**У жніўні ўвесь сьвет абляцела вестка пра гібель расейскай падводнай лодкі "Курск". На ёй загінулі і беларускія хлопцы...**

Афіцыйна прызнана, што сярод падводнікаў былі два беларусы: капітан 2-га рангу, першы памочнік камандзера падлодкі Сяргей Дудко і капітан-лейтэнант Аляксандр Садкоў. Аднак, зусім магчыма, што беларусаў было больш. Прынамсі, на карысьць гэтай вэрсіі гавораць яшчэ некалькі беларускіх прозьвішчаў у сьпісе загінуўшых.

Беларускія хлопцы па-ранейшаму гінуць за інтарэсы Расейскай імпэрыі. Гінуць у Ічкерыі, падаўляючы ў складзе расейскай арміі мясцовы Рух супраціву, цяпер вось на Баранцавым моры.

Зноў і зноў прыходзіць гора ў беларускія хаты. Плачуць крэўныя па сваіх загінуўшых сынах, братах, мужах. Але за што яны загінулі? Што яны абаранялі? Ці пакладзе хто кветкі на іх магілы на вялізных абшарах Расеі?

Для Сяргея Дудко і Аляксандра Садкова магілай сталася халоднае Баранцава мора...

**Іван Радзевіч**

## Жыцьцё і сьмерць Адама Дасюкевіча

**"Адам (Адась Янавіч) Дасюкевіч — забытая і сучаснаму грамадзтву амаль невядомая постаць беларускага нацыянальна-вызваленчага руху міжваенных часоў у Заходняй Беларусі", — сказала Лідзія Іванаўна Сікора-Дасюкевіч у адным інтэрвію (гл. спасылку 1). І яна мае рацыю. За апошняе дзесяцігодзьдзе з нябыту вернуты імёны многіх паплечнікаў яе мужа, Адама Дасюкевіча, але пра яго самога было напісана вельмі мала. І нават цяжка вытлумачыць, чаму так здарылася? Памятаю, як у 1993 годзе прынёс артыкул пра Дасюкевіча для Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі. Мне ж сказалі, што гэта не такая значная асоба...**



*Адам Дасюкевіч за рабочым сталом, 30 кастрычніка 1943 г. Апошні прыжыцьцёвы здымак*

Адам Дасюкевіч нарадзіўся 5 чэрвеня 1911 году ў вёсцы Капцэвічы на Ашмяншчыне (цяпер Смаргонскі раён). Падчас першай сусьветнай вайны загінула маці Адама і дзьве сястры, а яго з братам прытулілі чужыя людзі. Аднак з фронту прыйшоў бацька Ян і адшукаў сваіх сыноў. Спачатку Адам вучыўся ў мясцовай вясковай школе, а пасьля — у Віленскай беларускай гімназіі. У Вільні Адам Дасюкевіч і сфармаваўся, як беларускі патрыёт, бязконца адданы свайму народу й Бацькаўшчыне.

Пасьля заканчэньня гімназіі імя

**працяг на бал. 3**

***У рэдакцыю «ГК» надыйшоў прэс-рэліз спартова-патрыятычнай арганізацыі "Край", які мы зьмяшчаем ніжэй бяз зьменаў.***

## Аб сьвяткаваньні Арганізацыяй "КРАЙ" Дня беларускай вайсковай славы

9 верасьня 2000 г. Арганізацыя "КРАЙ" разам са сьвядомымі беларусамі адзначыла Дзень беларускай вайсковай славы. Акцыя праходзіла на Крапівенскім полі пад Воршай, на якім 8 верасьня 1514 г. нашыя славутыя ваяры пад камандаваньнем гетмана К. Астрожскага перамаглі ўтрая большае маскоўскае войска.

"КРАЙ", як арганізацыя беларускіх нацыяналістаў, гэтай акцыяй аддала даніну павагі змагарам за волю Беларусі, барацьбітам за нацыянальныя інтарэсы нашага народу. Мы лічым сябе пераемнікамі традыцыі нацыянальна-вызвольнай барацьбы. Таму што, пакуль працягваецца барацьба, — жыве Беларусь!

**працяг на бал. 2**

# Пра міты, якіх ня было

У артыкуле Алега Гардзіенкі "Другі Ўсебеларускі кангрэс: пад нямецкім кантролем" (Наша Ніва, 26.06.2000) была зроблена спроба выкрыць "адзін зь мітаў беларускай гістарыяграфіі". Але ці быў калі гэты "міт"? І савецкая, і сучасная афіцыйная беларуская гістарыяграфія аднолькава адмоўна ацэньваюць кангрэс, які адбыўся ў Менску пад нямецкай акупацыяй. На эміграцыі ж пра ягоную "унікальнасьць" пісалі толькі прыхільнікі Беларускай Цэнтральнай Рады. Астатнія ж групы, у тым ліку і Рада БНР, ня мелі наконт гэтага мерапрыемства ніякіх ілюзій...

Каб аб'ектыўна распавесьці пра Другі Ўсебеларускі кангрэс, відавочна, недастаткова толькі кнігі "Другі Ўсебеларускі кангрэс", выдадзенай ў 1954 годзе ў Мюнхэне, якой карыстаўся малады гісторык. Дарэчы, гэта не адзіны вядомы пратакол кангрэсу. У 1985 годзе накладам у 35 паасобнікаў у ЗША выйшла кніжка "Пратакол Другога Ўсебеларускага кангрэсу ў Менску дня 27-га чэрвеня 1944-га году", зьмест якой мае пэўныя адрозьненьні ад папярэдняга выданьня. Але справа ня ў гэтым.

Застаецца адкрытым пытаньне: навошта тагачасны беларускі нацыянальны актыў праводзіў кангрэс? Перад самым прыходам бальшавікоў. Пад нямецкім кантролем. Можа ад адчаю і бязсільля напярэдадні зьмены акупанта? Гэтая тэма неаднойчы ўзьнімалася ў беларускай эміграцыйнай прэсе ўжо ў першыя пасьляваенныя гады.

А. Выка ў чэрвені 1948-га ў нелегальным часапісе "Рух" (Заходняя Нямеччына) прыводзіць шмат довадаў, чаму другі кангрэс ня можа мець пераемнасьці ад першага кангрэсу. Ён піша: "Зьезд гэты ня толькі ня быў выяўленьнем волі беларускага народу, але навет не выяўляў волі пакліканых Астроўскім асобаў, бо ўдзельнікі зьезду маглі толькі да пэўнай меры выказаць свой пагляд і волю толькі ў дачыненьні да бальшавікоў і да палякаў, але ніколі ў дачыненьні да немцаў, ды наагул волі ў справе дзяржаўнае будовы Беларусі".

Той жа А. Выка адзначае, што Радаслаў Астроўскі праводзіў кангрэс, каб умацаваць сваё "прэзыдэнцкае становішча". Выка піша далей: "Карыстаючыся даверам фон Готбэрга, ён выклікае 27 чэрвеня 1944 г. павесткамі стэрарызаваную беларускую адміністрацыю і злачынна называе гэта "Другім Усебеларускім Кангрэсам", навязваючы гэта такім спосабам да Першага Усебеларускага Кангрэсу з 1917 г."

...Беларускі рух супраціву ў вадказ на гэта меўся з роспачы падняць паўстаньне ў Менску і абвесьціць БНР, але ад выступу гэтага толькі ўстрымала набліжэньне фронту, што дало змогу Астроўскаму ў такой стэрарызаванай атмасфэры давесьці свой "Кангрэс" да канца...

Што-ж заставалася рабіць гэтым "дэлегатам"? Заявіць аб сваім нэгатыўным становішчы да гэтае арганізацыі пры асысьце ў залі СД — было больш чым рызыкоўна. Таму аставаўся адзін выхад: пахлопаць у далоні, што так было й праведзена, а некаторыя навет іранічна выкрыкнулі з залі: "Няхай жыве наш дасьмертны прэзыдэнт!". (А. Выка. Трыццаць год атакі пад фальшывымі фірмамі з фальшывымі тытуламі супраць Беларускай Народнай Рэспублікі // Рух, № 5, 1948 г.).

Інфармацыя пра плянаванае беларускім Рухам Супраціву антынямецкае паўстаньне ў Менску пацьвярджаецца й іншымі крыніцамі. Што да выкрыкаў з залі, дык іх аўтар вядомы з сцэнаграмы кангрэсу. Калі прайшло галасаваньне (адзінагалоснае) наконт таго, што "Другі Усебеларускі Кангрэс сьцьвярджае, што з гэтага мамэнту Беларуская Цэнтральная Рада з Прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім на чале зьяўляецца адзіным правамочным прадстаўніцтвам беларускага народу", "дэлегат з Вільні Др. Франук Грышкевіч выгаласіў з месца: "Няхай жыве сучасны Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады і будучы дажывотны Прэзыдэнт Беларускай Народнай Рэспублікі — праф. Радаслаў Астроўскі" (Дэлегаты адказваюць бурнаю авацыяй)".

Зразумела, Франук Грышкевіч зрабіў гэта са зьдзекам. Ужо праз нейкія месяцы ён, застаўшыся на Бацькаўшчыне, загіне ў катоўнях НКВД... У двух вядомых сьценаграмах, згаданых вышэй, выступ

працяг на бал. 7

# Аб сьвяткаваньні Арганізацыяй "КРАЙ" Дня беларускай вайсковай славы

пачатак на бал. 1

Вечарам 9 верасьня на Крапівенскае поле арганізаванай калёнай падышлі байцы Арганізацыі "КРАЙ". Хлопцы, апранутыя ў камуфляжную форму, трымалі ў руках бел-чырвона-белыя сьцягі і паходні. Наперадзе калёны несьлі сьцяг гонару — Штандар Арганізацыі "КРАЙ". Гучала чароўная музыка, мастак Алесь Пушкін узьнёс рукі да неба, молячы каб уваскрэсла Беларусь. Па волі Боскай, у гэты момант на полі зьявіліся краёўцы. Гледачы былі ўражаныя такім містычным супадзеньнем. Па іх рэакцыі можна было зразумець, што з Арганізацыяй "КРАЙ" гэтыя людзі зьвязваюць вялікія спадзяваньні.

Пашыхтаваўшы байцоў "КРАЮ" каля Крыжа Памяці, камандзіры зводнага аддзелу арганізацыі выступілі з прамовамі. Краёўцы пакляліся працягваць справу нашых папярэднікаў. Потым адбылося паказальнае выступленьне на сцэне. Сябры арганізацыі паказалі добрую падрыхтоўку і фізычную моц.

Усю ноч працягваўся сьвяточны канцэрт. Выступалі беларускія барды, паэты.

У прысутных было шмат пытаньняў, на якія краёўцы далі грунтоўны адказ. Распаўсюджваўся сьвежы нумар нашай газэты "Голас Краю".

На акцыі прысутнічала міліцыя, але яна ў канфлікт з беларускімі нацыяналістамі не ўступала, паводзіла сябе ціха і непрыкметна.

Акцыя ў чарговы раз паказала правільнасьць абранага намі шляху. Толькі шырокая патрыятычная агітацыя здольна запаліць у нашым народзе агонь барацьбы, адрадзіць баявы дух нашых продкаў. Бяз гэтага не магчыма ні адзінства народу, ні вызваленьне нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны.

**Жыве Беларусь!**
**Жыве вечна!**

# Жыцьцё і сьмерць Адама Дасюкевіча

пачатак на бал. 1

Адама Дасюкевіча зьявілася й ужо не сыходзіла з віленскіх беларускіх газэт і часапісаў. Вось што пісаў часапіс "Шлях моладзі" у верасьні 1933 г.: "...15-га верасьня с. г. атрымалі матуру гадунцы Беларускай Філіі Дзяржаўнай гімназіі ім. Славацкага ў Вільні А. Марцінчык і А. Дасюкевіч" (2).

Неўзабаве Дасюкевіч стаў студэнтам Віленскага ўнівэрсытэту імя Сцяпана Батуры, вывучаў аграномію. Уступіў у незалежніцкі Беларускі Студэнцкі Саюз, увайшоў у ягонае кіраўніцтва. У сакавіку 1936-га Дасюкевіч быў выбраны намеснікам старшыні Саюзу, уваходзіў у рэдкалегію часапіса "Студэнцкая думка". Праз год Адам Дасюкевіч стаў старшынёй БСС і заставаўся ім аж да 1939 году.

Віктар Ярмалковіч, былы калега Дасюкевіча па ўнівэрсытэту, пазьней успамінаў: "інж. Дасюкевіч Адам, сын сястры кс. Адама Станкевіча. На УСБ (унівэрсытэце Сьцяпана Батуры — **С. Ё.**) вывучаў аграномію. Калі ў 1936 г. над старшынёй і разам рэдактарам "Беларускай Крыніцы" Янам Пазьняком вісела ўжо аж 35 судовых справаў і далей ён афіцыяльна рэдактарам аставацца ня мог, адказным рэдактарам стаў Адам Дасюкевіч. Вясной наступнага года выданьне "Беларускай крыніцы" польскімі ўладамі канчаткова было спынена, а супроць Дасюкевіча таксама вялося ўжо некалькі судовых спраў, якім заканчэньне прынясла вайна" (3).

Сапраўды, акрамя актыўнай дзейнасьці ў БСС, Дасюкевіч быў і актыўным дзеячом Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі (БХД), незалежніцкай палітычнай партыі, ды працаваў у рэдакцыі ейнага друкаванага воргану "Беларускай крыніцы". На пасадзе рэдактара Дасюкевіч зьмяніў Пазьняка ў верасьні 1936-га (з 39-га нумару). Неаднойчы Адама Дасюкевіча судзілі за публікацыі газэты. 19 красавіка 1938 г. яго прысудзілі да 6 месяцаў турмы з адтэрміноўкай на два гады (4). Па ўспамінах ягонай жонкі, "Дасюкевіч быў у цяжкім матэрыяльным стане і тым ня менш ахвяроўваў увесь свой вольны час і сродкі дзеля беларускай ідэі".



*А. Дасюкевіч (сядзіць другі зьлева) сярод сяброў Беларускага нацыянальнага аб'яднаньня ў віленскай беларускай друкарні імя Ф. Скарыны. Канец 30-х гадоў.*

Акрамя таго, Дасюкевіч быў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні, а ў 1940 г., ужо пад летувіскай уладай, віцэ-старшынёй беларускай групы пры Літоўскім Чырвоным Крыжы. Вучобу ва ўнівэрсытэце ён закончыў таксама пад летувіскай уладай, 15 сьнежня 1939 г. і атрымаў дыплём інжынера аграноміі.

У канцы 1937-га Дасюкевіч застаўся бяз бацькі. Часапіс "Шлях моладзі" пісаў: "7 сьнежня 1937 г. у в. Копцевічы, Ашмянскага пав., памёр сьв. п. Ян Дасюкевіч, бацька старшыні Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні студэнта Адама Дасюкевіча" (5).



*На вясельлі А. Дасюкевіча і Л. Сікоры ў Вільні. Красавік 1940 г. У цэнтры за сталом сядзіць кс. Адам Станкевіч. Стаяць (зьлева направа): Язэп Найдзюк (другі), Мікола Шчорс (чацьверты), Пётра Сергіевіч (шосты).*

11 красавіка 1940 года ў віленскім Бернардынскім касьцёле браліся шлюбам Лідзія Сікора і Адам Дасюкевіч. Яны былі знаёмыя яшчэ з 1937-га. Лідзія прыехала ў Вільню наведаць малодшага брата, які займаўся ў землямерным вучылішчы і жыў у адным пакоі ў інтэрнаце на вул. Полацкай, 9 разам з Адамам Дасюкевічам. Так і паз-

Працяг на бал. 4





*Пахаваньне Адама Дасюкевіча. Паставы, 2 лістапада 1943 г.*

# Жыцьцё і сьмерць Адама Дасюкевіча

пачатак на бал. 1,3

наёміліся. Жылі яны, па словах Лідзіі Іванаўны, сьціпла, але шчасьліва. 1940 год яны пражылі ў Вільні, дзе не маглі знайсьці працы. Давялося ў студзені 1941 г. выехаць у БССР, у Малыя Алашкі, да бацькі Лідзіі Івана Паўлавіча Сікоры. Там Адам дапамагаў цесьцю даглядаць ягоны вялікі й знакаміты сад.

Усё зьмянілася падчас нямецкай акупацыі. З аднаго боку пагражалі немцы, зь іншага — палякі, з трэцяга — савецкія партызаны, што тэрарызавалі вёскі. Віктар Сікора ўспамінае: "Спачатку ў нас былі захапілі ўсю ўладу палякі. Кожнага беларуса зрабілі камуністам. Бацьку майго арыштавалі, сястру, Дасюкевіча... З вялікімі цяжкасьцямі ўдалося ім выйсьці з турмы. Дапамаглі бацьку сваякі — у іх было золата і немцаў падкупілі".

Адам Дасюкевіч, як і многія іншыя беларускія дзеячы, зразумелі, што трэба браць у свае рукі грамадзянскую ўладу, каб бараніць беларускі народ перад акупантамі, каб ствараць беларускае войска з надзеяй на будучае адваяваньне незалежнасьці Беларусі. Вораг лічыўся толькі з сілай і трэба было гэтую сілу стварыць. Трэба было тым жа палякам прадэманстраваць, што тут Беларусь і Польшчы больш не будзе!

Спачатку Адам Дасюкевіч працаваў настаўнікам у Варапаева, у мясцовай школе. Аднак ужо на пачатку 1942-га ён перабіраецца ў Паставы, дзе займае становішча старшыні Пастаўскага павету. Давялося яму праводзіць беларусізацыю адміністрацыі, бараніць насельніцтва перад нямецкімі ўладамі. СД узяло яго пад нагляд. А пасьля здарылася трагедыя...



*Адам Дасюкевіч у труне, 1 лістапада 1943 г.*

У 1950 годзе на Захадзе беларускія эмігранты выдалі "Кнігу ахвяраў бальшавізму", у якой згадваецца і Адам: "...53. Дасюкевіч Адам — інж., 1944 — арыштаваны і забіты ў Вільні". Безумоўна, гэта была памылка. Дасюкевіч стаў ахвярай не бальшавіцкага, а фашыстоўскага тэрору. У кнізе Язэпа Найдзюка і Івана Касяка "Беларусь учора й сяньня" (Менск, 1993) падаецца, што Дасюкевіч быў "замардаваны немцамі... паводля стараньняў мяйсцовых палякоў". Сапраўды, польскае падпольле змагалася з беларускім нацыянальным рухам, зьнішчаючы сваімі ці нямецкімі рукамі беларускіх патрыётаў. Бачылі яны ворага і ў Дасюкевічу. Але пакуль невядома, ці ў гэтым выпадку палякі непасрэдна мелі дачыненьне да расстрэлу Адама Дасюкевіча.

По адной з вэрсій, калі немцы ў чарговы раз дамагаліся ад Дасюкевіча здачы падаткаў ад павету, ён ім стаў тлумачыць, што людзі ўжо ўсё аддалі, немагчыма ад іх яшчэ вымагаць, бо нічога ня маюць. На гэта немец выняў пісталет і застрэліў яго (6). Па іншай вэрсіі, Дасюкевіча эсэсавец расстраляў з аўтамата. Язэп Малецкі ў сваіх успамінах піша: "Дасюкевіч — ціхі, працавіты патрыёт... займаў становішча старшыні Пастаўскага павету. Застрэлены зондэрфюрэрам за тое, што ў вызначаны дзень ня прыбылі ўсе сялянскія падводы з пастаўкай збожжа на высылку ў Нямеччыну" (7).

На пахаваньне Дасюкевіча выйшлі сотні людзей. Віктар Сікора ўспамінае: "Мы, моладзь СБМ, не пабаялася і пайшлі на пахаваньне Адама Дасюкевіча. Немцы нам не перашкаджалі". Гэта відаць на здымках. Моладзь і старэйшае грамадзянства гэтым сваім учынкам пратэставалі супраць фашыстоўскага тэрору. Нацысты маглі паспрабаваць разагнаць працэсію, але пабаяліся. Пабаяліся арганізаванасьці, салідарнасьці пастаўскіх беларусаў, якія хавалі аднаго з сваіх лідэраў і абаронцаў.

У 1944-ым памерла дачка Лідзіі і Адама Дасюкевічаў. Ёй было

працяг на бал. 7







*Пахаваньне Адама Дасюкевіча. Паставы, 2 лістапада 1943 г.*

*Алесь ЗМАГАР*

# МОЙ ЖЫЦЬЦЯПІС

**Працяг, пачатак у № 3, 2000 г.**

24 чэрвеня 1938 г. — Бячайскі перавал, зварот назад у Менск, рэгістрацыя ў ваенкамаце, дванаццацідзённы практычны збор, а ў хуткім часе — шасьцідзесяцідзённы вучэбны збор КУКЗ у Новачаркаску, пасьля якіх, атрымаўшы званьне сотніка, дэмабілізаваўся як камандзір запасу. Сувязі з школамі ня трачу й належную мне зарплату, як настаўніку, атрымліваю таксама са школ. 16 сьнежня 1940 г. зноў мабілізаваны й накіраваны ў 69 Аддзельны Разьведбатальён. Зноў дэмабілізаваны, але ў хуткім часе ў студзені 1941 г. зноў прызваны й накіраваны ў 145 Казачы полк 4-й Данской Казачай дывізіі. У маёй сотні былі чэчэнцы, інгушы, лезгіны ды іншыя каўказкія інародцы, якія люта ненавідзелі маскоўскіх парабаціцеляў і царскіх, і савецкіх часоў. 28 жніўня 1941 г. я зноў у Менску. Намесьнік Менскае акругі Р. Астроўскі прапануе мне вельмі выгадную гаспадарча-харчовую працу ў Менску. Я адмаўляюся. Тады накіроўвае ў Смалявіцкі раён дапамагчы старшыні Пятровічу арганізаваць раённую Управу. 29 верасьня 1941 г. еду на працу раённага школьнага інспэктара ў Радашкавіцкі раён, дзе адчыняю 50 народных школаў і гімназію. Паколькі немцы дазвалялі адчыніць толькі адну гімназію на акругу, дык дыпляматычна была астаўлена адна гімназія ў Радашкавічах як гімназія Вялейскай акругі, а тры іншыя (у Ракаве, Гарадку і ў Алёхнавічах) перайменаваныя ў Агульна-адукацыйныя курсы з гімназіяльнаю праграмаю. Разам з гэтым адчыняю Завочныя настаўніцкія курсы. 29 кастрычніка 1941 г. адчыняю Беларускую народную школу ў Раёўцы Ільлянскага павету. 17 лістапада 1941 г. Галоўны інспэктарат накіроўвае мяне на пасаду акруговага школьнага інспэктара ў Вялейку, ад чаго я адмовіўся і атрымаў вымову. 25 жніўня 1942 г. Галоўны інспэктарат накіроўвае мяне на пасаду акруговага школьнага інспэктара ў Ліду, я адмаўляюся, тады прызначаюць спачатку Н. Мядзейку, а потым — палкоўніка М. Дзямідава. Я еду ў Васіліскі павет на месца інспэктара, замардаванага польскімі тэрарыстамі, і ўключаюся ў школьную й нацыянальную працу. 1 сакавіка 1943 г. атрымліваю прызначэньне ў якасьці школьнага інспэктара на Жалудоцкі павет, дзе польскія тэрарысты таксама замардавалі школьнага інспэктара, ягонага сакратара й старшыню павету. У жніўні 1943 г. працую ў якасьці кіраўніка акруговых настаўніцкіх курсаў ў Лідзе ды дапамагаю палкоўніку М. Дзямідаву арганізаваць Беларускую самаахову ў Лідзе. 3-га сьнежня 1943 г. прымаю справы яшчэ й Шчучынскага школьнага інспэктарату ды пераяжджаю ў Скрыбава. У вольны час пішу вершы ды часам газэтныя артыкулы. Арганізую ўшанаваньне нашых нацыянальных і рэлігійных сьвятаў, гурткі дэклямацыі, хор і рэфэраты. 27 чэрвеня 1944 г. быў дэлегатам ад Лідзкае акругі на Другім Усебеларускім Кангрэсе. Хутка насоўваюцца на Менск чырвоныя маскалі. Беларуская Цэнтральная Рада выяжджае. У Скрыбаве Лідзкай акругі падарвалі іхны цягнік. На шчасьце, вагон БЦР застаўся цэлы. Наведваю сяброў БЦР ды атрымліваю "шутцбрыф". Маючы на руках такі важны дакумэнт, захопліваю таварны вагон ды пачынаю пераносіць свае пакункі, асабліва з кнігамі. Адначасна ўладжваю ў вагон віцебскага вэтэрынара з кароваю ды сям'ю са Смаленшчыны, таксама з кароваю. Забягаю ў Мажэйкаўскі, паўкіляметра ад Скрыбава, спіртзавод ды, на ўсялякі выпадак, набіраю біклажку сьпірту. Прапусьціўшы цягнікі зь Менску й Ліды, наш цягнік са Скрыбава адыходзіў астатнім і мог трапіць у рукі чырвоных, што мы цяжка перажывалі. Едзем па маршруту на Вільню. Вільня ўжо захоплена ворагам. Паварочваем на Варшаву. Не жадаючы ехаць у Нямеччыну, выладоўваемся, не даяжджаючы Варшавы, у Скрудзе. Наведваюся ў Беларускі Камітэт у Варшаве, там сустракаю былога аднакурсьніка па БДзУ Плашчынскага. Аднойчы, вярнуўшыся з Варшавы, даведаўся, што савецкія партызаны, спаткаўшы Смаленца, пыталі, ці не нацдэм я й ці ня



ўдзельнік Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Тагды-ж уначы перабіраемся ў Варшаву, адкуль немцы вязуць нас у Ліцманштат. Уцякаем у пусты вагон іншага цягніка й трапляем у Петрыкаў, а потым у Чэнстахоў. Цягнік ідзе ў Чэхаславакію, куды і я хачу, але немцы адчапілі наш вагон, і мы трапляем у лягер зь сем'ямі ўкраінскіх паліцаяў і цэлым статкам кароў. Жывецца вельмі добра, бо мяса й малочных прадуктаў дастаткова. Праз колькі месяцаў напраўляюць мяне на працу ў якасьці бухгалтара на ваенную фабрыку, а жонку — у "люфтвафэ". Зноў уцёкі. Непрыемнасьці з жандармэрыяй. Заступніцтва нейкай знатнай нацысткі, і мы — у Вене. Тут-жа і атаман Штоўхань. 14 жніўня 1944 г. трапляем у лягер Штрасгоф. Кругом калючы дрот і вартавыя. Пару глыткоў сьпірту, і я прапушчаны за вароты. Даведваюся ўнівэрсытэту, рэгіструюся як навуковец, атрымліваю прадуктовыя карткі, раблю закупы й варочаюся назад. Вартавы атрымлівае пару сігарэт. 29 жніўня пераяжджаю ў Дзюрхгангслягер. 18 верасьня маю накіраваньне ў Грац на працу па славістыцы ва ўнівэрсытэце. Я рыхтуюся. Да мяне падышла якаясь славутая на ўсю Польшчу гадалка й выгадала мне сьмерць падчас паездкі. Паездку адкладаю на суткі й застаюся жывы, бо цягнік быў ушчэнт разбамбардаваны ангельскай авіяцыяй. Пераяжджаю ў іншы лягер, зь якога на дзень выпускаюць, каб самі шукалі сабе работы, але кормяць добра, і работы ніхто не шукае.

# МОЙ ЖЫЦЬЦЯПІС

Аднойчы зьявіліся эсэсаўцы, каб усіх нас арыштаваць і паслаць на фронт капаць акопы. За дзьверы нікога не выпускаюць. Чарка сьпірту адчыніла мне дзьверы. Зьяўляюся да беларускай арганізацыі, каб дапамаглі нам у нашай бядзе. Тэлефануюць. Адказваюць, што нічым дапамагчы ня могуць. Еду ў штаб казакаў. Тыя хутка акружаюць наш лягер, кольбамі вінтовак адчыняюць дзьверы і ўсіх вызваляюць з-пад стражы.

12 кастрычніка 1944 г. я на прыватнай кватэры ў Швадорфе, Вена. Маючы дакумэнты школьнага інспэктара беларускіх школ на Беларусі, іду да дырэктара ваеннай фабрыкі з прапановаю адчыніць пры фабрыцы дзіцячую беларускую школу. За тыдзень было ўсё арганізавана, і школа пачала працаваць.

23 кастрычніка 1944 г. паведамляю ў Бэрлін БЦР.

25 кастрычніка 1944 г. атрымліваю з БЦР ад. кіраўніка аддзелу прапаганды, прэсы й культуры Аўгена Калубовіча ўпаўнаважаньне для адчыненьня ў Вене беларускай пачатковай школы. Адчыняю яшчэ тры школы й прызначаю настаўнікамі паэта Алеся Салаўя, мастака Пятра Міраповіча й былую настаўніцу Радашкавіцкага павету Паплаўскую.

9 сьнежня 1944 г. школьны рэфэрэнт БЦР доктар А. Орса высылае мне другі дакумэнт.

Час ідзе, і насоўваецца з Югаславіі савецкае войска. Мінула 2 месяцы, а настаўніцкай зарплаты не атрымалі. Асінскі й Кіт зь Вены выехалі, а разам зь імі, пэўна, і настаўніцкая зарплата, а мы яе чакаем. У стале запіска, каб я прыняў іхныя справы. Раптам заскочыў зьвязны прэзыдэнта Астроўскага лейтэнант Анатоль Плескачэўскі. "Уцякайце, — прапануе, — хутка рускія займуць Вену". — "Ня маем за што ехаць, чакаем на зарплату". — "Вам выслана". — "Не атрымалі". — "Чакайце. Еду да прэзыдэнта. Заўтра вярнуся". І, дзякуй яму, назаўтра мы атрымалі грошы.

Цягнікі перапоўнены. Трэба ўцякаць пешкі. Я, Алесь Салавей і нашы жонкі ўпрагліся ў каляску з нашымі рэчамі. Па дарозе заскочыў у канцылярыю Нацыянальнай Нямецкай Рабочай партыі, бяру "маршбэфэль" з дазволам праезду з каляскаю на Аахэн, а адтуль — на далейшы праезд. Патрэбу запісу далейшага праезду я вытлумачыў таму, што, пакуль мы даедзем да Аахэну, там будзе ўжо варожае войска.

Дарога ў цэнтар Вены забіта хурманкамі. Дарога ўлева на поле свабодная. Жандары. Паказаў пропуск. Прапусьцілі, але папярэдзілі, што ў тым кірунку рухаецца рускае войска зь Югаславіі, і трэба сьпяшацца. Едзем усю ноч. Справа ад дарогі гараць аўстрыйскія сялібы, зьлева — канава й кустарнік. Назаўтра даведаліся, што амаль поруч з намі, 200-300 мэтраў зьлева, рухалася савецкае войска. Карыстаючыся іхнаю перадышкаю, мы перасеклі дарогу й накіраваліся на Бадэн, мяркуючы папасьці на поўдзень да казакаў. Не ўдалося, і мы павярнулі на Пёльтэн, а потым на Рыд (Верхняя Аўстрыя). Спыняемся ў Кірхгайме. Амэрыканцы.

12 чэрвеня 1945 г. з дазволу амэрыканскай вайсковай улады арганізую Беларускі Камітэт Непаваротцаў і шмат каго ратую ад прымусовай высылкі на Радзіму або ад сьмерці. Зьвязваюся з кіраўніком Беларускага Камітэту ў Зальцбургу сп. Уладзімерам Гуцькам, дапамагаю ўкраінцам арганізаваць Украінскі Камітэт у Рыдзе, навязваю лучнасьць са старшынёй Беларускага Камітэту ў Лінцы пастарам Янам Пятроўскім, арганізую беларускую школку, хор, чытаю рэфэраты, пішу вершы й раман "Случчына ў вагні".

1946 г. Канчаю 1-ую квадру рамана, выдаю апрацаваны вершам казачны абразок "Рэпка". Праводжу нацыянальную працу, як і раней.

1947 г. Выдаю апавяданьне "Случчакі", у Рыдзе пры ІРО канчаю курсы й здаю экзамен на майстра па вырабу лялек, перапісваюся зь Лявонам Рыдлеўскім, былым слуцкім паўстанцам, ды пасылаю скаргу аж у Жэневу на апанаванае маскалямі лягернае кіраўніцтва за адмову запісаць у анкеце маю нацыянальнасьць — беларус. Адчыняю ў лягеры беларускую дзяцінную школу.

1948 г. Рыхтуюся да выезду ў Францыю.

23 травеня 1949 г. у лягеры "Жывэт", на мяжы з Бэльгіяй.

2 ліпеня 1949 г. падпісваю кантракт на сельскагаспадарчыя працы ў мільянэркі — фармаркі Дуршон Івон у вёсцы Сантэны, правінцыі Сайн-Уаз. Кожнае нядзелі еду ў Парыж на беларускія сходкі. У хуткім часе мяне абіраюць на старшыню Беларускай сэкцыі Французкага Хрысьціянскага Саюзу, і я зноў уключаюся ў актыўную нацыянальную працу.

Быў прыняты ў сябры Рады БНР. Выконваю абавязкі першага сакратара Рады БНР, кіраўніка Французкай сэкцыі Рады, арганізоўваю пры Сындыкаце з дапамогаю артыста Аўгена Кавалеўскага беларускі драматычны гурток, хор, гурток народных скокаў, дэклямацыі, уваходжу ў рэдкалегію часапісу "Баявая Ускалось", чытаю рэфэраты, адкрываю беларускую школку.

1-га сакавіка 1951 г. пераяжджаю на працу да Профіта ў Вінант пар Жуар.

Пачынаюцца мае непаразуменьні з прэзыдэнтам БНР Абрамчыкам. Я, былы прыхільнік БАПЦ, радзіў Абрамчыку аднавіць яе, але не рабіць зь яе палітычнага прыдатку ягонага палітыканства. Дый палітычнай эміграцыяй ён лічыў толькі чырвоных, а нашу эміграцыю лічыў калябарантамі, у той час як я лічыў усіх тых, хто вырваўся з чырвоных кіпцюроў ад сьмерці й трапіў за мяжу, палітычнымі эмігрантамі. Па сваіх паглядах ён быў "ружовы". Не чырвоны (інтэрнацыянальны), а ружовы (нацыянальны камуніст), а я быў антыкамуніст, нацыянал-дэмакратычны анархіст, праціўнік усялякае дыктатуры.

У Парыжы я пазнаёміўся зь вельмі здольным студэнтам гістарычных навук Сарбонскага ўнівэрсытэту Янкам Філістовічам, кіраўніком беларускай моладзі.

1952 г. Працую ў якасьці першага мэтрдатэля ў палацы буйнога мільянэра Мэтэталя (Шато дэ Пэроз). Пішу апавяданьні й вершы.

1-га лютага 1953 г. залічаны ў склад сяброў Беларускага Вызвольнага Руху й прыпісаны да афіцэрскага корпусу. Пасада — культрэфэрэнт пры штабе БВР.

Працяг у наступным нумары

# Пра міты, якіх ня было

пачатак на бал. 2

Грышкевіча, у адным выпадку падаецца перад прыняцьцем рэзалюцыі, а ў другім — пасьля.

Яшчэ ў 1953 годзе цікавыя разважаньні пра значэньне Другога Ўсебеларускага кангрэсу напісаў Уладзіслаў Рыжы-Рыскі, сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Спачатку ў артыкуле "...Цяпер і вы загаварылі? ...а што-ж дагэтуль вы рабілі?" (Незалежная Беларусь (Зах. Нямеччына), № 6 (12), ліпень 1953) ён сьцьвярджае, што "скліканьне кангрэсу была вымушана ад немцаў Беларускай Цэнтральнай Радай пры поўнай падтрымцы і згодзе Беларускай Незалежніцкай Партыі". А ў артыкуле "Значэньне 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу" (Незалежная Беларусь, № 5 (11), чэрвень 1953) У. Рыжы-Рыскі ўступае ў палеміку з Язэпам Малецкім ды сьцьвярджае, што **падчас нямецкай акупацыі была беларуская незалежніцкая арыентацыя.** Аднак "ніхто на Беларусі ня думаў паклікаць да ўлады ані пакойнага Захарку, ані яго прыватнага спадкаемцу М. Абрамчыка, нікому на Беларусі невядомага. Ня прыходзіла так жа нікому ў галаву аднаўленьне Беларускай Дзяржавы ў форме РБНР (Рады Беларускай Народнай Рэспублікі — **І. Р.**).

Дзяржаўныя формы, як ведама, заўсёды зьменны й залежаць ад эвалюцыі нацыянальнай думкі. Беларуская Незалежніцкая партыя, якой Др. Малецкі хіба не закіне калябаранства ды ня прышыець ніякай іншай мянюшкі з багатага лексыкону "Бацькаўшчыны" (газэта, якая ў др. пал. 40-х — 60-х гг. выдавалася ў Зах. Нямеччыне ды прытрымлівалася арыентацыі на Раду БНР — **І. Р.**), ставіла мэтай стварэньне Беларускай Незалежнай Дзяржавы, але не прадбачвала ў ёй ніякіх "тэстамэнтаў"; наадварот — шэф яе прыняў місыю прэзыдэнта БЦР на стварэньне падпольнага ўраду на Беларусі ў выпадку, калі-б ён апынуўся там падчас навейшае савецкае акупацыі (і хто ведае, ці такі ўрад на Беларусі ня існаваў, а можа існуе і сёньня?).

Было-б не да даравання праф. Р. Астроўскаму, як Прэзыдэнту БЦР, калі-б ён ня вымагаў ад нямецкага акупанта накіраваньня беларускіх сілаў для падмацаваньня застаўшыхся на Бацькаўшчыне партызанаў ды аднаўленьня Незалежнай Беларускай Дзяржавы...

...Падчас Кангрэсу існавалі, як ведама, дзьве тэндэнцыі: афіцыяльная — БЦР і нелегальная — БНП. Беларуская Цэнтральная Рада імкнулася правесьці Кангрэс бяз збройнага канфлікту з немцамі. БНП-ж мела намер надаць Кангрэсу рэвалюцыйны характар у адносінах да немцаў. Я, як сябра БНП, быў староньнікам другой формы, аднак сёньня, гледзячы на мінулае з далейшай пэрспэктывы, мушу прызнаць, што першы мэтад быў бязумоўна адзіным слушным і практычным, бо-ж ашчадзіў нам шмат патрэбных патрыятычных сілаў, якія напэўна былі-б зьнішчаны ў выпадку магчымага канфлікту з немцамі.

**...Я пераканаины, што беларускі народ, па вызваленьні з пад бальшавіцкага ярма, патрапіць збудаваць свае апрычоныя дзяржаўныя формы, адкідаючы ўсякія эміграцыйныя штучныя "эрзацы".**

Мадрыд. 2-га чэрвеня 1953 г.

( — ) **Уладыслаў Рыжы-Рыскі**

б. сакратар аддзелу прапаганды Галоўнага Кіраўніцтва Беларускай Краёвай Абароны".

Такім чынам, пішучы пра Другі Ўсебеларускі кангрэс, варта ўзгадаць сытуацыю, у якой ён праходзіў. Моладзь ірвалася на барыкады, а старэйшыя ўжо думалі пра эміграцыю. І калі б усё ж было ўзьнята напрыканцы чэрвеня 1944-га, няхай і няўдачнае, паўстаньне ў Менску, цяпер на ягоным фоне амаль ня згадваўся б кангрэс. Аднак здарылася наадварот. Беларускія нацыяналісты не змаглі супрацівіцца, калі калябаранты пасылалі прывітальную тэлеграму Гітлеру. Яшчэ адзін козыр у савецкай прапаганды. Праз нейкі месяц пачнецца Варшаўскае антыфашыстоўскае паўстаньне. Яно таксама было асуджана на паразу, але адбылося...

**Іван Радзевіч**

# Жыцьцё і сьмерць Адама Дасюкевіча

пачатак на бал. 1,3,4

толькі тры года...

Пакуль невядома да якой падпольнай беларускай арганізацыі належаў Адам Дасюкевіч. Аднак напэўна, што ня мог ён застацца ў баку ад Беларускага нацыянальнага Супрацiву, які разгортваў сваю дзейнасьць падчас нямецкай акупацыі. Шмат беларускіх патрыётаў загінулі ад рук фашыстоўскіх акупантаў. Гэта й кс. Вінцэнт Гадлеўскі, і Пётра Радзевіч, і маёр Віталь Мікула і шмат іншых. Яны змагаліся за незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны-Беларусі, знаходзячыся паміж молатам і накавадлам...

**Сяргей ЁРШ**

*Здымкі з сямейнага архіва Віктара Сікоры.*



*Віктар Сікора каля магілы Адама Дасюкевіча на пастаўскіх могілках.*

**Спасылкі:** 1. Алена Кіёнак. Лідзія Іванаўна Сікора-Дасюкевіч: фамільны партрэт на фоне часу // Паўсядзённае жыцьцё ў Беларусі: 1945-1965. Зборнік матэрыялаў і конкурсных працаў — Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999, б. 157.

2. Шлях моладзі (Вільня), № 9 (56), верасень 1933 г., б. 15.

3. Віктар Ярмалковіч. Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні // Весткі Інстытута Беларусаведы, № 8, 1993, б. 9.

4. Шлях моладзі, № 10, 25 красавіка 1938 г., б. 6; Крыніца (Вільня), № 1 (698), 17 лістапада 1939 г.

5. Шлях моладзі, № 17 (116), 16 сьнежня 1937 г., б. 16.

6. А. Катковіч, В. Катковіч-Клентак. Успаміны. Беласток, 1999, б. 39, 107.

7. Я. Малецкі. Пад знакам Пагоні (успаміны). Таронта, 1976, б. 58.

*Кнігарня*

# Успаміны беларускіх дзеячак

**У Беластоку Беларускім Гістарычным Таварыствам выдадзена кніга "Успаміны" Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак.**



Аўтары ўспамінаў з перажытага — актыўныя ўдзельніцы беларускага нацыянальнага руху ў часы Другой сусьветнай вайны, пасьля былі вязьнямі сталінскіх канцлягероў. Анеля і Вэраніка Каткавічанкі — сёстры, ураджэнкі мястэчка Будслаў (Мядзельшчына). Анеля нарадзілася 19 чэрвеня 1914 года, а Вэраніка — 20 чэрвеня 1918 г. Анеля Катковіч вучылася ў Віленскай Беларускай Гімназіі, а пасьля скончыла гісторыю ў Віленскім унівэрсытэце, была сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу. Вэраніка закончыла паўшэхную школу ў Будславе, кравецкую школу ў Лунінцы. У час нямецкай акупацыі Вэраніка была намесьніцай кіраўнічкі СБМ Надзеі. Абрамавай, у беларускай адміністрацыі працавала Анеля Катковіч. Абедзьве ў 1944 годзе выехалі на Захад, абедзьве былі арыштаваны пасьля вайны й апынуліся ў ГУЛАГу.

Успаміны Каткавічанак утрымліваюць шмат цікавых зьвестак пра беларускі нацыянальны рух 1930-40-х гадоў ды пра беларускіх дзеячоў. Згадваюцца, між іншых, Юльян Саковіч, Уладзімер Шавель, а. Вінцэнт Гадлеўскі, Алена Сакалова-Лекант, Мікола й Хведар Ільяшэвічы, Усевалад Кароль, Міхась Ганько, Мікола Шчорс, Адам Дасюкевіч, Вітаўт Тумаш, Антон Шукелойць, Надзея Абрамава, Надзея Дземідовіч, Вера Касмовіч, Яўгенія Шастак, Янка Жамойцін ды шмат іншых. У "Успамінах" апісваецца таксама жыцьцё беларусаў у бальшавіцкіх канцлягерах, зьмешчана шмат фотаздымкаў.

Выдадзеная беластоцкімі беларусамі кніга — яшчэ адзін унёсак у справу аб'ектыўнага апісаньня трагедыі беларускіх патрыётаў, якія ў час Другой сусьветнай вайны спрабавалі аднавіць незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны. Аднак зьнішчаліся й зьнявольваліся акупантамі і з Усходу, і з Захаду.

# Пра гісторыю бальшавіцкіх рэпрэсій

**Нядаўна ў Менску пабачыла сьвет кніга беларускага дзеяча Сымона Кандыбовіча (1891 — 1972) "Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі".**




Сымон Кандыбовіч у 30-х гадах быў адным з кіраўнікоў БССР. Яго арыштавала НКВД, але напачатку нямецка-савецкай вайны Кандыбовіч вызваліўся, працаваў у беларускай грамадзянскай адміністрацыі. Летам 1944-га ён выехаў на эміграцыю, уваходзіў ва Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. На эміграцыі, у 50-х гадах, ім і была напісаная гэтая кніга, якая доўгі час захоўвалася ў архіве Беларускага інстытута навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку.

# Пра беларускае войска

**"Спробы стварэньня беларускага войска" — так называецца кніга беларускага генэрала Франца Кушаля, якая выйшла на Бацькаўшчыне.**

У кнізе сабраныя ўспаміны й шматлікія артыкулы Кушаля, якія




друкаваліся ў эміграцыйнай пэрыёдыцы й прысьвечаныя спробам стварэньня беларускага войска ў часы Беларускай Народнай Рэспублікі й падчас Другой сусьветнай вайны. Ва ўспамінах Франца Кушаля падрабязна апісаная гісторыя стварэньня Беларускай Самааховы, Беларускай Краёвай Абароны ды іншых вайсковых фармацый. Аўтар прывёў шмат цікавых, малавядомых фактаў, зьвестак пра ўмовы, у якіх ствралася беларускае войска.

На жаль, з пэўных прычын, па-за ўвагай Кушаля засталіся беларускія вайсковыя фармацыі, якія дзейнічалі за межамі "Генэральнага камісарыята "Беларусь", а таксама батальён "Дальвіц" 1944-45 гг.

# Жыцьцё пад агнём

**Гісторыі стварэньня беларускага войска ў часы Другой сусьветнай вайны прысьвечана й кніжка Лявона Юрэвіча "Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі", якая была выдадзена ў Менску ў 1999 годзе.**




Вядомы беларускі дасьледчык-эмігрант Юрэвіч сабраў у кніжцы ўспаміны Барыса Рагулі, Язэпа Сажы-

ча, а таксама тэкст "Наваградзкі Эскадрон" з эміграцыйнага часопіса "Наперад" ад 1953 г. Дарэчы, апошні тэкст поўны крыптанімаў, якія можна было б цяпер расшыфраваць, а таксама выправіць некаторыя недакладнасьці ці памылкі ("Голас камбатанта" зробіць гэта ў бліжэйшых нумарах).

У кніжцы зьмешчана песьня "Першага штурмовага зьвязу", якая нібыта "друкуецца ўпершыню". На самой справе гэтая песьня друкавалася ў гарадзенскай "Пагоні" яшчэ ў 1995 годзе (№ 8, 3-9 лютага). І той тэкст значна адрозьніваецца ад таго варыянту, што зьмешчаны ў кнізе. Трэба адзначыць, што перадрукоўка ў "Пагоні" была зроблена з менскай газэты "Голас вёскі", № 44 (98), 4 лістапада 1943 г. У той публікацыі "Песьня першага беларускага штурмовага зьвязу" падавалася з нотамі. Музыку напісаў кампазітар М. Шчаглоў. На нашую думку, тэкст з "Голасу вёскі" зьяўляецца першапачатковым. Менавіта гэты варыянт песьні сьпявалі хлопцы з **"Першага штурмовага зьвязу"**, калі ў чэрвені 1941-га году ішлі ў бой супраць бальшавікоў. Падаем яго ніжэй:

Чутны гоман, там войска сьпявае,
Па садах вадгалоскі чуваць, —
Крывічанскі жаўнер прыбывае,
Каб сабе тут начлегам стаяць.
Гэта йдзе першы зьвяз наш штурмовы,
Беларусь — родны край бараніць,
Хоча скінуць чужыя аковы,
У вольным краю каб вольнымі быць.
Людзі краскамі іх абкідаюць,
А дзяўчаты цалункі ім шлюць,
Яны з радасьцяй гэта прыймаюць, —
Так прыгожа праз сёлы ідуць.
Па гасподах гаворкі, цалункі,
Прысяганьні... у вачох поўна сьлёз, —
Вось якія нам будуць жаданьні,
Што гатуе нам будучы лёс?
Крывічанскае войска сьпявае,
У крывавы рыхтуецца бой,
А дзяўчына ў жаўнера пытае:
Чаму браць ён ня хоча з сабой?

**Агляд падрыхтаваў
Андрэй Краўцоў**

*Забраны край*

# Белавежская пушча

**Белавежская пушча. Яе ўвекавечылі ў кніжках, песьнях, пра яе здымаюць фільмы, тут быў падпісаны сьмяротны прысуд Савецкай імпэрыі. Толькі ня згадваюць пра тое, як Сталін пасьля Другой сусьветнай вайны падзяліў наш нацыянальны скарб на дзве часткі, адну зь якіх аддалі Польшчы...**

Якраз у той час (у 1944-45 гг.) у Белавежскай пушчы дзейнічаў партызанскі аддзел Беларускай Незалежніцкай Партыі, складзены з былых самаахоўцаў з Беластоку. Беларускія партызаны зьнішчылі некалькі афіцэраў "Сьмершу", перад гэтым узяўшы ў іх сакрэтную інфармацыю, і праводзілі выведку, чакаючы падмацаваньня з Захаду.

Даведаўшыся пра падзел роднай пушчы, беларускія партызаны-незалежнікі пачалі арганізоўваць супраціў. І ў той час, калі ў пушчу прыехала савецка-польская "камісія" дзяліць беларускую зямлю, яна ледзь не ў поўным складзе падарвалася на падкладзенай партызанамі міне. Праўда, бальшавікі афіцыйна падалі, што здарыўся «няшчасны выпадак» і іх дэлегацыя падарвалася на нямецкай міне. Беларускія партызаны не крыўдавалі на гэта. Галоўнае, што акупанты даведаліся: ёсьць яшчэ абаронцы гэтай зямлі і ім дала прытулак Белавежская пушча, супраць падзелу якой яны пратэстуюць.

**Я. В.**

# Сьпецслужбы дзейнічаюць супраць эміграцыі

**Напрыканцы ліпеня невядомымі была абрабавана сядзіба Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".**

Злачынцы ўзламалі замкі на дзьвярах і ўвайшлі ў будынак па вуліцы Рэвалюцыйнай, 15 у Менску, дзе месьціцца сядзіба "Бацькаўшчыны". Іх не цікавілі матэрыяльныя каштоўнасьці, якія тут былі. Узялі ж яны сыстэмны блёк кампутара з базаю дадзеных пра дзейнасьць арганізацыі за 10 гадоў, а таксама зь інфармацыяй **пра ўсясьветную беларускую дыяспару з пэрсанальнымі адрасамі ды тэлефоннымі нумарамі.**

Як выглядае, пэўныя сьпецслужбы працягваюць «распрацоўку» беларускай эміграцыі, спрабуючы нейтралізаваць яе ўплыў на падзеі ў Беларусі. У сувязі з гэтым здарэньнем згадваецца выпадак абрабаваньня старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, які адбыўся некалькі гадоў таму, і калі ў беларускай дзеячкі была скрадзена з кампутара база дадзеных.

**А. К.**

# Арыштаваны савецкі агэнт

**На пачатку лета ў ЗША быў арыштаваны савецкі агэнт, расеяц па паходжаньню, былы палкоўнік амэрыканскай арміі Джордж Трафімаў.**

Высьветлілася, што калісьці Трафімаў працаваў у Нюрнбергу ў якасьці грамадзянскага кіраўніка армейскага адзьдзелу Аб'яднанага цэнтру дазнаньня ды перадаваў усю сакрэтную інфармацыю ў Маскву. У прыватнасьці, ён паведамляў сваім маскоўскім гаспадарам вынікі допытаў перабежчыкаў з-за "жалезнай заслоны". Трафімаў падазраецца і ў дапамозе перапраўкі на Захад двайных агэнтаў.

Такія трафімавы і філбі нарабілі шмат шкоды беларускаму Руху Супраціву, выдаючы шмат якую сакрэтную інфармацыю бальшавікам.

**Б. Р.**

*Дайджэст*

## Апошні ваеннапалонны мінулай вайны

**Сёлета многія СМІ свету паведамлялі пра гісторыю вугорскага жаўнера, які ваяваў супраць Саветаў падчас Другой сусьветнай вайны, трапіў у палон, а пасля ў псіхічную клініку, дзе прабыў 53 гады...**

Нядаўна Андраш Томаш быў дастаўлены з Расеі ў Вугоршчыну. На Радзіме Томаш стаў усьміхацца й патрохі ўспамінаць мінулыя падзеі свайго жыцьця. Высьветлілася, што ён быў прызваны ў вугорскую армію і ў 1943 годзе ваяваў на Доне супраць савецкай арміі. Там і трапіў у палон. Тры гады правёў у лягеры ваеннапалонных, а пасьля трапіў у клініку...

Жыцьцёвая гісторыя вугорскага жаўнера не пакінула абыякавым нікога. У Вугоршчыне знайшлося шмат людзей, якія "пазналі" ў Андрашы Томашы бацьку, брата, мужа... Аднак, сустрэча яго са "сваякамі" не дала выніку — ён іх не пазнае.

Цяпер ва ўсіх жадаючых вярнуць жаўнера ў сваю сям'ю была ўзятая кроў на аналіз ДНК. А пакуль удалося ўстанавіць, што Томаш нарадзіўся не ў 1925 г., як было пазначана ў дакумэнтах, а на пяць гадоў раней. Ён з цікавасцю разглядае свае здымкі ў газэтах і вучыцца чытаць і пісаць па-вугорску.

## Тут не пустое месца .

**Простаму чалавеку ж трэба карміць сям'ю, будаваць дом, гадаваць дзяцей. Яму хочацца бачыць навокал сваю шчасьлівую краіну, добрых суседзяў, прыгажосьць і гармонію. Яму трэба ствараць лепшую будучыню (сьветлую й мірную) для сваіх нашчадкаў.**

А яму замест таго прапануюць прымітыўную і агрэсіўную "славянскую" ідэалогію. Падсоўваюць у якасьці сьвятога тупаватага маскоўскага цара, які больш за ўсё на сьвеце любіў страляць варон у садзе. Цэнтрам Сусьвету робяць бандыцкую Масковію. Дураць галаву расейскімі войнамі, пажарамі ды падводнымі лодкамі.

Але ж тут не пустое месца. Тут свае сьвятыя і героі. Замест цароў — князі й каралі. Тут свая гісторыя, мова, культура, навука. І да вас тут былі людзі. І зараз ёсьць ня горшыя. Каму не падабаецца — гэць адсюль! — піша **"Наша Свабода"**.

## Новы "акт" нянавісьці да Беларусі

**Савецкая ўлада, хоць і ішла па шляху стварэньня адзінай нацыі "савецкі чалавек", аднак у дзяржаўных дакумэнтах выкарыстоўвалася акрамя рускай, таксама мова карэннага насельніцтва рэспублікаў. Такі ўзор дакумэнта праіснаваў да 1991 года.**

На самым пачатку існаваньня незалежнай Беларусі быў зроблены пераходны ўзор дакумэнта, падобны на стары, але з выявай нацыянальнага герба "Пагоня".

У 1992 годзе "на вякі" рабіўся ўжо прыстойны дакумэнт, на добрай паперы, па-беларуску, выдатна аздоблены, са ступенямі абароны. "Вякі" апынуліся 8-ю гадамі.

У сярэдзіне гэтага года зьявіўся новы "фаліянт". Выключна на рускай мове, нягледзячы на вынікі рэферэндума 1995 года, які ўлады прыдумалі самі для сябе і які абавязвае іх складаць дакумэнты на дзьвюх мовах: рускай і беларускай. Дарэчы, уводзячы новы "государственный акт", толькі ў адной Горадні было спалена 6 тон дакумэнтаў узору 1995 года. Менавіта з-за герба "Пагоня" і бел-чырвона-белых стужачак.

Днямі ў Лідзкім раёне ў поле ня выйшлі камбайны — няма грошай на салярку. Можам застацца бяз хлеба. А вось для спаленьня 6 тон дакумэнтаў з-за "Пагоні", беларускай мовы й друкаваньня новых па-руску грошы знаходзяцца, — піша гарадзенская газэта **"Пагоня"**.

## Дзеля тых, каму тут жыць

"Няшчасная Беларусь! Добры, памяркоўны, рамантычны народ у руках такой поскудзі. І пакуль гэты народ будзе дурнем, так будзе заўсёды. Аддае чужынцам лепшых сваіх сыноў, лепшых паэтаў, дзетак сваіх таракае чужынцамі, бэсціць пракракаў сваіх — быццам вельмі багаты. Аддае сваіх герояў на прэнг, а сам сядзіць у клетцы над міскай з бульбай ды бручкай і лыпае вачамі. Дорага я б даў таму чалавеку, які скіне нарэшце з шыі народнай усіх гэтых гнілых... выскачак, прадажных журналістаў, і зробіць яго гаспадаром уласнага лёсу".

Гэта — Уладзімер Караткевіч. Гэта — пра Беларусь XIX стагодзьдзя. І па сутнасьці, мала што зьмянілася за апошнія сто гадоў. Хочаш-не хочаш, пачнеш разважаць бясконца: дык за што Бог карае беларускі народ, асуджае яго на стагодзьдзі пэрманентнага змаганьня за права быць гаспадаром на ўласнай зямлі? Мо за тое, што, уваходзячы ў храм, нашы нядаўнія продкі не прысагіналі каленяў і ня кленчылі? Ці за тое, што потым сагнулі калені перад людзьмі, а не перад Богам? Забыўшыся на гонар і годнасьць, якія даюць чалавеку права лічыцца Чалавекам, а не рабом. І пакуль мы будзем у стане рабскім — мы ня зможам нічога пабудаваць ні для сябе, ні для сваіх дзяцей. Бо пад прымусам немагчыма ствараць. Можна толькі моўчкі ненавідзець і чакаць часу расплаты, так і паміраючы ў сваім бясконцым чаканьні, — піша менская газэта **"Беларуская маладзёжная"**.

### Нацыянальныя стандарты

3 сакавіка сёлета ўкраінскія ўльтранацыяналісты пачалі асабліва актыўна патрабаваць закрыцьця рускамоўных тэле- і радыёстанцый, матывуючы гэта неабходнасьцю спыніць "іншамоўную агрэсію" ў украінскую інфармацыйную прастору. 11 красавіка кіраўнік Львоўскай абласной адміністрацыі Сьцяпан Сянчук прыняў рашэньне спыніць трансляцыю перадач адзінай на ўсю вобласьць рускамоўнай музыкальнай радыёстанцыі "Наше радио".

Ініцыятыва з месцаў была падтрымана й на дзяржаўным узроўні. 4 ліпеня Вярхоўная рада Украіны прыняла ў першым чытаньні законапраект, які робіць больш жорсткім адказнасьць тэлерадыёвяшчальнікаў за неадпаведнасьць нацыянальным стандартам. Чакаецца ўнясеньне ў кодэкс аб адміністратыўных праваапарушэньнях новага артыкула, які прадугледжвае адказнасьць за невыкананьне законаў аб квотах на дэманстрацыю нацыянальных фільмаў і перадачаў ці праграм нацыянальнай вытворчасьці, а таксама выкарыстаньня замежных моваў у тэлерадыёвяшчаньні. Падобныя ж меры прадугледжвае й рэалізацыя пастановы "Аб дадатковых мерах па пашырэньню сферы функцыяніраваньня ўкраінскай мовы як дзяржаўнай", — піша **"БДГ"**.

# Атаман Скамарох быў агэнтам ЧК?

**19 жніўня гісторык Віталь Скалабан і журналіст Сяргей Крапівін надрукавалі ў "СБ" артыкул "Сьлед атамана Скамароха".**

Атаман Скамарох (Гэрман Шыманюк) – гэта заходнебеларускі партызанскі атаман, які ў 1922-23 гадах змагаўся супраць польскіх акупацыйных уладаў, аўтар вядомага ўльтыматума "начальніку Польскай дзяржавы" Язэпу Пілсудзкаму. Калі палякі выйшлі на сьлед беларускай канспірацыі й Скамароха, ён зьнікае. Доўгі час не было ніякіх зьвестак пра яго лёс пасьля таго, як ён на пачатку 1920-х гадоў перабраўся ў СССР. Беластоцкія беларускія гісторыкі меркавалі, што быў Скамарох-Шыманюк расстраляны падчас сталінскіх рэпрэсій. Магчыма, яны не памыліліся. Публікацыя ж у "СБ" падае ў іншым сьвятле асобу атамана.

Гэрман Дзямьянавіч Шыманюк нарадзіўся ў 1892 годзе ў вёсцы Грабавец Бельскага павету. Вядома, што да канца 1921 г. ён быў артыстам маскоўскага тэатру "Буфф". Адсюль, праўдападобна, паходзіць і ягоная партызанская мянушка. У сьнежні 1921-га Шыманюк вярнуўся ў родную вёску з маладой жонкай, артысткай Лізаветай. Якраз у Заходняй Беларусі ўзьнімаўся антыпольскі партызанскі рух. Гэрман Шыманюк становіцца партызанскім атаманам...

Па розных зьвестках, у Скамароха ў падначаленьні была розная колькасьць партызан. Найперш, ён дзейнічаў на Беласточчыне й Гарадзеншчыне. Выдаваў падпольную газэту "Беларускі партызан". Праўда, газэта гэтая, праўдападобна, друкавалася ў Летуве, там яна й рэдагавалася. Магчыма, гэта рабілася ў рэдакцыі часапіса "Беларускі сьцяг"...

У траўні 1922-га, праз паўтара месяца пасьля ўльтыматума Скамароха-Шыманюка Язэпу Пілсудзкаму, ягоны атрад быў абкладзены польскімі войскамі ў Белавежскай пушчы і разьбіты. Некаторыя партызаны загінулі або трапілі ў палон. Сам Скамарох выратаваўся, але палякі захапілі ягоную жонку. Чатыры партызаны былі расстраляныя палякамі ў Беластоку.

І хоць партызанка яшчэ працягвалася, сам Скамарох зьявіўся ў Летуве, якая дапамагала беларусам зброяй, амуніцыяй, фінансамі, але неўзабаве спыніла гэтую дапамогу. Самаго атамана выцясьнялі з Коўна ў Бэрлін. Але ён вырашыў перабрацца ў Савецкую Беларусь...

Там ён зьявіўся напрыканцы 1923 г. або напачатку 1924-га. Перад гэтым Скамарох, праўдападобна, наладзіў сувязь з чэкістам-дывэрсантам Ваўпшасавым, які й залагодзіў пераход мяжы. Легалізацыя атамана ў БССР пачалася са зьмены прозьвішча – ён стаў Паплаўскім. Пытаньне аб прыёме Скамароха ў камуністычную партыю вырашала ў сакавіку 1925 г. Бюро ЦК КП (б) Беларусі...

Спачатку былога атамана накіравалі на "практычную работу" у Менскі акружны камітэт партыі, у 1930 годзе ён ужо працаваў у райгандлю ў Полацку. У 1932 годзе Скамарох-Паплаўскі ўжо сярод кіраўнікоў чыгункі ў Менску, а з 1933-га – дырэктар Магілёўскага ветэрынарнага тэхнікума. Пасьля забойства Кірава рэпрэсіі разгарнуліся з новай сілай. Дайшла чарга й да Шыманюка.

У ліпені 1935-га яго абвінавачваюць у "полнейшем политическом и бытовом разложении и злоупотреблениях". Жонку ж яго абвінавацілі ў сувязі з польскай дэфензівай. Бюро Магілёўскага РК КП (б) Б пастанавіла зьняць яго з работы й прыцягнуць да адказнасьці. Такім чынам, афіцыйна судзілі былога атамана не па палітычнаму артыкулу, а па крымінальнаму...

Утрымліваўся Шыманюк-Скамарох-Паплаўскі, на думку Скалабана і Крапівіна, дзесьці ў БССР. Летам 1937-га яго вырашылі адправіць у высылку ў Расею ды прывезьлі ў Менск на "валадарку". Тут ён 4 ліпеня 1937-га піша заяву сакратару ЦК КП (б) Б Шаранговічу: "я вырашыў зьвярнуцца да цябе... з выключнай прозьбай выслухаць, разабрацца і дапамагчы нам, былым партызанам Заходняй Беларусі... якіх у 1923-34 гг. прыняла... і выхавала Камуністычная партыя (б) Беларусі"...

Крымінальная абвінавачваньне ў свой адрас Шыманюк катэгарычна абвяргаў. Але самае цікавае ў заяве датычылася сувязей атамана Скамароха... з ГПУ. Нібыта, яшчэ будучы атаманам у Заходняй Беларусі, ён дзейнічаў у цесным кантакце ды па заданьню Ковенскай савецкай агэнтуры. Піша ён, што чэкісты асабліва адзначалі важнасьць летувіскага прыкрыцьця беларускіх партызанаў, якое адводзіла падазрэньні ад "савецкай рукі".

"З майго штабу ведала тры чалавекі аб кіраўніцтве з боку ВЧК нашай арганізацыяй – гэта я, Бельян, Мартынюк – камісар штаба, ён жа пасьля начальнік штаба, і Рошчанка Ігнась, праз якога пасылаліся ўсе данясеньні і зводкі і ін. інфармацыя", – пісаў былы атаман. Далей ён адмяжоўваўся ад "розных нацдэмаўскіх арганізацый, ластоўскіх, цьвікевічаў"... "Кіраўніцтва ОГПУ з 1923 да 1934 гг. ведала нас як самых нястомных чэкістаў", – прызнаецца аўтар заявы.

Вось такая інфармацыя. Трэба толькі напомніць, што пісаў гэтую заяву чалавек у бальшавіцкай турме, спрабуючы выратаваць сваё жыцьцё. Пошук іншых дакумэнтаў мог бы канчаткова раставіць усе кропкі над "і": ці быў атаман Скамарох агэнтам ЧК-ОГПУ яшчэ падчас партызанкі ці стаў ім, калі зьявілася неабходнасьць шукаць прытулку ў СССР.

Нядаўна Дзяржкамархіў Беларусі пасылаў запыт у КГБ РБ наконт Шыманюка. Чэкісты адказалі, што ў іх на яго нічога няма...

Скалабан і Крапівін лічаць, што атамана маглі расстраляць дзесьці пад Менскам або зьнішчыць у якім-небудзь канцлягеры.

**А. К.**



На здымку: Гэрман Шыманюк з жонкай Лізаветай.

2 кастрычніка споўнілася 80 гадоў

**Андрэю ВАЙТОВІЧУ**

сябру Беларускай Незалежніцкай Партыі, жаўнеру Наваградзкага швадрону Барыса Рагулі, дэсантніку батальёна "Дальвіц".

Жадаем яму здароўя й вытрываласьці!

**Рэдакцыя "ГК"**

# Дзяды

Я на куце паставіў чарку,
Хлеба паўбохана паклаў,
Місу капусты з добрай скваркай.
Дзядоў вячэраць пагукаў.
Дзяды! Якое мы калена?
Адкуль свой род трэба лічыць?
Я памяць варушу дарэмна –
Пра нас гісторыя маўчыць...
Бо не князі, і не магнаты
У нас продкамі калісь былі.
Наш род з курной вясковай хаты,
Мы ўсе ад плуга, ад зямлі.
Не будзем гербамі хваліцца,
Мы не з тых панцырных баяр.
Што аніяк ім не забыцца
Пра радаслоўны каляндар.
Але заўсёды, калі трэба
Было Радзіму бараніць
Дзед, памаліўшыся на неба,
Гатоў быў галаву злажыць.
Успомнім колькі навальніцаў
Над нашым краем прагуло,
Але дзядоў нашых крыніцы
Пылом вякоў не замяло.

**Уладзімер СІЎКО**

## *Паштовая скрынка*

**Я. С., Флёрыда, ЗША.** Нам таксама было прыемна атрымаць ад Вас ліст. Газэту будзем дасылаць.

**Ул. С., Наваградчына.** Вершы атрымалі, друкуем. Вельмі радыя, што зьбіраецеся сесьці за ўспаміны.

**А. А., Полацак.** Здымкі дайшлі. Вялікі дзякуй.

**В. К. Нясьвіжскі р-н.** Дзякуй за запрашэньне. Абавязкова прыедзем.

# Зноў ганьбяць Віцьбіча

**У так званай "Народнай газеце" 19 жніўня зьявіўся чарговы пашквіль, накіраваны супраць беларускага нацыянальнага руху і вядомага дзеяча Юркі Віцьбіча, у прыватнасьці.**

Нейкі "Аркадий Подлипский" з Віцебску надрукаваў "артыкул" пад загалоўкам "Надо ли смотреть в кривое зеркало? Как витебский "ариец" Юрка Витьбич создавал "новые белорусские молитвы". Падобнае даводзілася чытаць у савецкія часы, а цяпер ізноў ідзе поўным ходам "прамыўка мазгоў". Ізноў беларускіх патрыётаў паліваюць брудам розныя "пісьменьнікі", якія адчуваюць падтрымку сваёй "творчасьці" з боку сёньняшніх уладаў. Вось і грошы знайшліся для "небольшой книги" Падліпскага, якую ён напісаў пра Віцьбіча й якая мусіць выйсьці напрыканцы 2000 г. Можна здагадвацца, якая мана й глупства будзе там надрукавана.

Шкада толькі, што былая папулярная «Народная газета» цяпер пераўтварылася ў рупар розных падліпскіх. Таму й зьменшыўся наклад газеты да катастрафічна малога. І неяк зьдзекліва глядзіцца над лагатыпам сёньняшняй «Народнай газеты» беларускі патрыятычны кліч «Жыве Беларусь!»...

**Андрэй Краўцоў**

# Памерла сястра Ус. Родзькі

**У верасьні ў ЗША памерла Галіна Русак (Родзька), вядомая беларуская мастачка, магістар гуманітарных навук.**

Галіна Русак нарадзілася 24 траўня 1930 года ў Наваградку ў сям"і Філарэта й Веры Родзькаў. У 1944-ым, калі яе сям'я выехала з Бацькаўшчыны, ратуючыся ад бальшавіцкіх рэпрэсій, яна апынулася на Захадзе. А брат Галіны Ўсевалад Родзька вырашыў прысьвяціць сваё жыцьцё змаганьню за незалежнасьць Беларусі. Загінуў. Галіна Русак вельмі моцна перажывала ягоную гібель ды не любіла закранаць гэтую тэму. Цяпер ня стала і яе...

Галіна Русак (Родзька) была пахавана на беларускіх могілках у штаце Ню-Джэрсі.

Сьв. Пам.

**Сяргей Кажан**

(1916 – 2000)



актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальнага руху 1930-40-х гадоў, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу, са жніўня 1944-га – сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. У 1944-45 гг. быў у дэсантным батальёне "Дальвіц". Вярнуўся на Бацькаўшчыну. У 1946 г. быў засуджаны бальшавікамі на 10 гадоў канцлягераў. Пасьля вызваленьня жыў у Полацку.

Паходзіў з вёскі Вялікае Сяло на Шаркоўшчыне.

**«Голас Камбатанта»**

**газэта ветэранаў БВР**

*Надрукавана на абсталяваньні Гарадзенскага грамадзкага аб"яднаньня «Ратуша». Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.*